# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С С.Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 14 (32) | 15-га лістапада 1929 году | № 14 (32)


## ЗЬМЕСТ

### Пастановы Прэзыдыуму ЦП.



### Дырэктывы ЦП Саюзу.





*Пастанова Прэзыдыуму ЦПС ад 8—X—29 г., прат. № 18.*

## Мерапрыемствы па ўзмацненьню прафработы ў саўгасах

(Гэту пастанову абавязкова абгаварыць на агульных сходах рабочых саўгасаў).

У выніку праламленьня ў практычнай рабоце саюзных арганізацый саўгасаў дырэктыў IX Усебеларускага Зьезду і ЦП саюзу, Прэзыдыум ЦП адзначае наяўнасьць некаторых посьпехаў: у рабоце па прыцягненьню рабочых і работніц с/г да актыўнага удзелу ў гаспадарчым будаўніцтве і па ўзмацненьню эканамічнага становішча савецкіх гаспадарак, якія ў першаю чаргу выражаюцца ў правышэньні плянавых заданьняў па павышенью ўраджайнасьці (замест . 17 % ураджайнасьць павышана на 31%), у больш шырокім пераходзе на зьдзельную аплату працы, у ўзмацненьні працоўнае дысцыпліны сярод рабочых.

Разам з тым Прэзыдыум лічыць, што прафработа ў саўгасах пастаўлена надзвычайна слаба, асабліва ў частцы арганізацыі актыўнага ўдзелу рабочых і работніц у вытворчасьці; слаба разгорнута сацспаборніцтва галоўным чынам унутры саўгасаў. Няма сыстэматычнае праверкі заключаных па сацспаборніцтву дагавароў. Недастаткова разгорнута крытыка і самакрытыка, якасьць культвыхаваўчае працы не адпавядае запатрабаваньням пэрыяду разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва і рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты. Маюць месца факты казённых і бюрократычных адносін рабачкомаў і адміністрацыі да здавальненьня законных запатрабаваньняў рабочых да выкананьня калдагавору і норм аховы працы. Саўгасы вельмі слаба працуюць па не-

пасрэднай калектывізацыі дробных сялянскіх бедняцка серадняцкіх гаспадарак.

Выходзячы з таго, што саўгасы павінны стаць узорамі буйнае сацыялістычнае гаспадаркі і цэнтрамі пралятарскага ўплыву на калектывізацыю дробных сялянскіх гасп дарак, прафработа ў саўгасах павінна быць падпарадкавана ўцягненьню рабочых у актыўнае гаспадарчае будаўніцтва, стварэньню сьвядомых адносін з боку рабочых да сацыялістычнае вытворчасьці, клясаваму выхаваньню с. г. рабочых і палепшаньню іх матар'яльна-бытавога становішча.

У мэтах ажыцьцяўленьня гэтых задач, Прэзыдыум ЦП пастанаўляе:

**У галіне падбору і падрыхтоўкі кадраў.**

1. Палепшыць работу па падрыхтоўцы і падбору кадраў кваліфікаваных с/гасрабочых і спэцыялістых па буйнаму земляробству, шляхам укамплектаваньня штатаў у саўгасах выключна з пралятарскай часткі батрацтва, моладзі, прайшоўшай с/гасвуч і індывідуальнае навучаньне і шляхам актыўнага ўдзелу з боку саюзу ў укамплектаваньні і распрацоўцы навучальных плянаў с/гаснавучальных установаў. Рабачкомам саўгасаў прымаць самы актыўны ўдзел у падборы кадраў пастаянных рабочых саўгасаў.

2. На працягу лістапада г. г. на вытворчых нарадах усіх саўгасаў прапрацаваць пытаньне аб штатах пастаянных і сэзонных рабочых, устанавіўшы пэўны лік пастаянных і сэзонных рабочых выходзячы з патрэбнасьці саўгасу ў рабочай сіле ў розныя сезоны работ. Поўнасьцю зьнішчыць прымяненьне працы таквааных гадова-сэзонных і гадова-падзёных рабочых, залічваючы іх у штат пастаянных рабочых, улічваючы пры гэтым патрэбнасьці гаспадаркі у рабочай сіле.

3. Культаддзелу зараз жа распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўкамплектаваньню с/гаснавучальных устаноў, асабліва факультэту буйнага земляробства і тэхнікумаў каляктыўнага земляробства сельгаслесрабочымі і па падрыхтоўцы іх да паступленьня ў гэтыя ўстановы.

4. Лічыць патрэбным арганізаваць у 1930 годзе яшчэ адну школу с/гасвуча, павялічыўшы лік вучняў у сельгасвучы да 200 чалавек. Культаддзелу пераглядзіць праграму існуючае школы с/гасвуча і ўнесьці ў апошнюю патрэбныя карэктывы.

5. Цалкам запоўніць на працягу лістападу ўстаноўлены процант броні ў саўгасах. Рабачкомам і Акраддзяленьням устанавіць сталы нагляд за пастаноўкаю індывідуальнага навучаньня і сваечасова правераць кваліфікацыю навучаемых падросткаў.

6. У зімовы пэрыяд арганізаваць ва ўсіх саўгасах 3—х тыднёвыя вытворчапрафсаюзныя курсы, якімі ахапіць усіх пастаянных рабочых і работніц. Культаддзелу і Сельтрэсту да I/XII распрацаваць і разаслаць у саўгасы праграму курсаў.

7. Арганізаваць у зімовы пэрыяд 3—х месячныя курсы па павышэньню кваліфікацыі кіраўнікоў саўгасаў на 50 чал. і старшых рабочых на 50 чал. Пасылаць на гэтыя курсы ў першую чаргу вылучэнцаў. АТЭ і Сельтрэсту зараз жа прыступіць да падбору кандыдатур на курсы і да правядзеньня ўсяе падрыхтоўчае работы.

8. Аргаддзелу праверыць да 10/XII як выконваюцца дырэктывы ЦП аб арабочаньні на 70 проц. складу кіраўнікоў саўгасаў і аб вылучэньні 40 чалавек сельгасрабочых на пасады кіраўнікоў і 60—на пасады старшых рабочых. Прыступіць да падбору 10 кандыдатур с-гасработніц для падрыхтоўкі і вылучэньня на пасады кіраўнікоў старшых і рабочых.

9. Аргаддзелу, АТЭ і Сельтрэсту ў адпаведнасьці з плянам будауніцтва новых буйных саўгасаў у БССР распрацаваць мерапрыемствы па бесперабойнаму забесьпячэньню гэтых саўгасаў кваліфікаванымі рабочымі і спэцыялістымі.

**У галіне ўцягненьня с/гасрабочых у актыўнае гаспадарчае будаўніцтва.**

10 Шырэй разгарнуць сацспаборніцтва паміж саўгасамі і ўнутры саўгасаў, праводзячы яго пад знакам поўнага выкананьня рабочымі каляктывамі ўзятыхна сябе абавязкаў па павышэньню вытворчасьці працы, зьніжэньню сабекаштоўнасьці, зьнішчэньню прагулаў, па павышэ

ньню ўраджайнасьці і г. д., дзеля чаго прапанаваць саюзным арганізацыям:

а) Рабачкомам саўгасаў і Акругкомам саюзу забясьпечыць сталае кіраваньне разгортваньнем сацспаборніцтва.

б) Для праверкі выкананьня дагавораў па сацспаборніцтву рабачкомам саўгасаў арганізаваць пасылку брыгад у тыя саўгасы, з якімі заключаны дагаворы на сацспаборніцтва, а таксама наладзіць узаемную справаздачнасць па выкананьню дагавораў паміж гэтымі саўгасамі.

в) Разгарнуць сацспаборніцтва ўнутры саўгасаў паміж аддзельнымі рабочымі і групамі рабочых. Арганізаваць у саўгасах ударныя групы, брыгады па павышэньню вытворчасьці і якасьці працы.

г) Для ўзмацненьня работы па разгортваньню сацспаборніцтва і для праверкі выкананьня ўжо заключаных дагавораў у кожнай акрузе арганізаваць брыгады з прадстаўнікоў ЦП саюзу начале і з прыцягненьнем у брыгады с/гаслесрабочых — членаў УсеЦСПС, ЦСПСБ, ЦК саюзу і ЦП саюзу, працуючых на вытворчасьці і нізовай прафрабоце. Брыгады павінны прыступіць да работы 10/X. Аргаддзелу распрацаваць паказаньні аб арганізацыі і парадку работы брыгад.

11. Вытворчыя нарады ў большасьці саўгасаў яшчэ не зьяўляюцца арганізатарамі вытворчае ініцыятывы рабочых, пагэтаму рабачкомам саўгасаў і акругкомам саюзу дабіцца ўцягненьня ў работу вытворчых нарад усіх рабочых і работніц. Забясьпечыць поўнае выкананьне прапаноў рабочых, прынятых на вытворчых нарадах. Як правіла, на наступных вытворчых нарадах першым пунктам слухаць інфармацыі аб тым, як выкананы пастановы, прынятыя на мінулай вытворчай нарадзе. У буйных саўгасах практыкаваць правядзеньне вытворчых нарад па паасобных галінах гаспадаркі (напрыклад: нарада рабочых, працуючых ў галіне жывёлаводства, у галіне паляводства і агародніцтва, на тэхнічных прадпрыемствах і г. д.). Рабачкомам пераглядзець склад і падабраць працаздольных старшынь вытворчых нарад.

12. Работу вытворчых нарад падпарадкаваць ажыцьцяўленьню задач і дырэктыў і па пашырэньню пасеўных плошчаў, падвышэньню ўраджайнасьці, зьніжэньню сабекаштоўнасьці, арганізацыі мэтазгоднага скарыстаньня рабочае сілы, інвэнтару, арганізацыі пасеўных і ўборачных кампаній. На вытворчых нарадах, як правіла, усебакова абгаварваць вытворчыя і арганізацыйныя пляны, гадовыя справаздачы і планы капітальнага будаўніцтва. Дабіцца такім чынам, каб кожны рабочы і работніца добра ведалі становішча свайго саўгасу і пэрспэктывы яго разьвіцьця.

13. Брыгадам по праверцы сацспаборніцтва праверыць выкананьне прыкладных плянаў вытворчых нарад на 29 год. АТЭ ЦП на падставе матар'ялаў праверкі скласьці такія пляны на 30 год.

14. АТЭ і Сельтрэсту да 1/XII-29 год. выканаць пастановы Прэзыдыуму аб арганізацыі часовых кантрольных камісій у буйных саўгасах і ўнесьці сьпісы гэтых саўгасаў на зацьверджаньне наступнага пасяджэньня Прэзыдыуму ЦП саюзу. Разаслаць у гэтыя саўгасы палажэньне і паказаньні аб рабоце ЧКК.

15. Адзначаючы адсутнасьць у саўгасах работы па арганізацыі рабочага вынаходства, усім саюзным арганізацыям удзяліць гэтай справе максімум увагі, АТЭ і С/Трэсту да 1/I—30 г. распрацаваць мерапрыемствы па арганізацыі справы рабочага вынаходства і ўнесьці на зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦП.

Газэце "Бел.Батрак" наладзіць папулярызацыю вынаходства рабочых саўгасаў, асьвятляючы факты вынаходства, як з саўгасаў БССР і другіх раёнаў СССР.

16. Па прыкладу прамысловых прадпрыемств стварыць у Сельтрэсьце і Менсельпраме фонд прэміраваньня рабочых за павышэньне вытворчасьці і палепшаньне якасьці працы, за добрыя адносіны да вытворчасьці, за лепшыя прапановы на вытворчых нарадах, за эканомію паліва (трактары і тэхпрадпрыемствы, а таксама для прэміраваньня за вынаходства.

### У галіне арганізацыі працы.

17. Адзначаючы зусім слабую работу саюзных і гаспадарчых ворганаў у галіне арганізацыі працы ў саўгасах, Прэзыдыум ЦП пастанаўляе:

а) Прапанаваць акругкомам саюзу і рабачкомам саўгасаў прыняць захады да выкананьня ранейшых дырэктыў ЦП і Сельтрэсту аб устанаўленьні ўва ўсіх саўгасах цьвёрдых правілаў унутранага распарадку. Гэту работу правесьці да 1/I-30 году.

б) Паставіць пытаньне аб арганізацыі ў 30 годзе ў адным з буйных саўгасаў вопытнае станцыі па навуковай арганізацыі працы. Сельтрэсту, АТЭ і Аргасэкцыі зараз жа прыступіць да падрыхтоўчае работы па арганізацыі гэтае станцыі.

в) Лічыць патрэбным арганізацыю ў С-Трэсьце бюро экономікі працы. На час вясеньняе пасеўнае кампаніі і уборкі ў некалькіх буйных саўгасах для вопыту ўвесьці нарміроўшчыкаў працы.

г) АТЭ і С-Трэсту да 15/XII абагуліць вынікі прымяненьня зьдельшчыны ў саўгасах і намеціць мерапрыемствы па пашырэньню зьдельшчыны.

д) АТЭ і С-Трэсту распрацаваць праэкт мерапрыемств па пераходу саўгасаў на бесперапынны вытворчы тыдзень.

е) Арганізаваць у 30 годзе у час пасеўнае і уборачнае кампаніі вытворчыя экскурсіі рабочых саўгасаў у буйныя саўгасы СССР.

18) Узмацніць агрыкультурную работу саўгасаў, праводзячы яе ў напрамку: непасрэднае арганізацыі калгасаў з боку саўгасаў; аказаньня агратэхнічнае дапамогі новым калгасам на пэўных дагаворных пачатках; разгортваньня сацспаборніцтва паміж вёскамі, уключаючы ў дагаворы апрача гаспадарчых пытаньняў і агранамічных мерапрыемств пытаньні распаўсюджваньня пазыкі, калякгыўнае здачы лішкаў хлеба вёскамі, распаўсюджваньня газэт і інш. мерапрыемствы грамадзка-палітычнага значэньня. Палепшыць работу па агрыкультурнаму шэфству саўгасаў над вёскамі і пасёлкамі. зрабіўшы гэта шэфства сродкам перабудовы вёскі на калякгыўных пачатках.

19. Шырока папулярызаваць сярод насельніцтва гаспадарчыя і агранамічные дасягненьні паасобных саўгасаў, праводзячы гэту работу праз друк, выданьне кніжак аб рабоце саўгасаў, праз справаздачы саўгасаў на пленумах с/саветаў на сходах сялян, праз удзел у с-г выстаўках. Рабачкомам саюзу прасачыць і прыняць актыўны удзел у падрыхтоўцы с-гасаў да Ўсебеларускае Выстаўкі.

**У галіне узмацненьня работы рабачкомаў і клясавага выхаваньня рабочых саўгасаў**

20. На працягу бліжэйшага часу поўнасьцю ахапіць прафчленствам пралетарскую і паўпралетарскую частку пастаянных, сэзонных і падзённых саўгаскіх рабочых, якія па працоўнаму стажу адпавядаюць статуту саюзу.

21. У час перавыбараў рабачкомаў падабраць працаздольны склад старшынь рабачкомаў. У саўгасах: з лікам 40 і больш пастаянных і сэзонных рабочых старшынь рабачкомаў зусім аслабаніць ад работы на вытворчасьці, у саўгасах з лікам рабочых ад 25 да 40 — старшынь рабачкомаў аслабаніць на 3 дні ў тыдзень ад работы на вытворчасьці; і з лікам да 25 рабочых на 2 дні ў тыдзень.

Дагаварыцца з Сельтрэстам аб аплаце старшынь рабачкомаў за дні, атрымоўваемые для прафработы.

Правесьці ў 30 годзе 3-х месячныя курсы старшынь рабачкомаў с-г з разьлікам ня менш, як 60 чал.

22. Для палепшаньня работы па клясаваму выхаваньню рабочых і работніц саўгасаў правесьці наступнае:

а) На працягу зімовага пэрыяду 29/30г. зьнішчыць няпісьменнасць сярод усіх членаў саюзу ў саўгасах.

б) Арганізаваць у саўгасах прафпалітгурткі, паклаўшы ў аснову праграм гэтых гурткоў пастановы 16 партканфэрэнцыі УсеКП/б/, XII Зьезду КП/б/Б, 8 Усесаюзнага Зьезду Прафсаюзаў і Усесаюзнага Зьезду СГЛР, а таксама пастановы партыі па саўгаснаму і калгаснаму будаўніцтву. Культаддзелу прыступіць да складаньня гэтых праграм.

в) Рабачкомам і райінструктарам падабраць кіраўнікоў палітгурткоў, правесьц раённые курсы—нарады гэтых кіраўнікоў для папярэдняе прапрацоўкі праграм гурткоў, прыцягнуўшы выкладчыкамі на гэтыя курсы тэарэтычна падрыхтованых раённых работнікаў.

г) Работу па клясаваму выхаваньню падпарадкаваць задачы падрыхтоўкі с-гасрабочых і работніц да ўступленьня ў шэрагі КП/б/Б і ЛКСМБ.

д) Культаддзелу і С-Трэсту скласьці праграму вытворча тэхнічных гурткоў якія павінны даць рабочаму с-гасп. неабходныя агратэхнічныя веды па будаўніцтву саўгасаў.

е) Культаддзелу скласьці каталёг літэратуры, патрэбнае для гэтых гурткоў і змясьціць у бюлетэні ЦП саюзу а таксама скласьці каталёгі літэратуры па-ўкамплектаваньню бібліатэк у саўгасах.

ж) Дабіцца, каб кожны рабочы саўгасу выпісваў газэту „Беларускі Батрак" разгарнуць паміж рабачкомамі саўгасаў сацспаборніцтва па распаўсюджваньню гэтае газэты.

Навакол газэты „Бел. Батрак" і насьценных газэт арганізаваць гурткі-рабкораў і пачаць з імі сыстэматычную работу, шляхам арганізацыі рабкораўскіх нарад канфэрэнцый, на якіх ставіць справаздачы газэты „Бел. Батрак"

з) Культаддзелу ў 2-х месячны тэрмін скласьці плян клюбнага будаўніцтва і радыёфікацыі ў саўгасах, прадугледзеўшы пабудову клюбаў у першую чаргу ў прымежных саўгасах. Па лініі С-Трэсту даць распараджэньне, каб штогодня пры складаньні вытворча-фінансавых пянаў уключаліся сродкі на бягучы і капітальны рэмонт саюзных культустаноў у саўгасах.

Больш увагі ўдзяліць арганізацыі і палепшаньню работы вайсковых і фіз. культурных гурткоў, забясьпечыўшы гэтыя гурткі патрэбным абсталяваньнем, практыкуючы арганізацыю фізкультурных і стралковых спаборніцтваў паміж камандамі розных саўгасаў, раёнаў, акруг.

**У галіне палепшаньня матар'яльна-бытавога становішча.**

23. Абвясьціць рашучую барацьбу з выпадкамі казённа-бюрократычных адносін да законных запатрабаваньняў рабочых, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу: на акуратную выплату зарплаты рабочым, прыцягваючы кіраўнікоў с./г. да адказнасьці за несваечасовую выплату зарплаты, сваечасовае вырашэньне канфліктаў, на поўнае выкананьне калдагавораў і норм аховы працы, праводзячы самую бязьлітасную барацьбу з наплевацельскімі адносінамі да выкананьня дагавору і з боку рабачкомаў да праверкі гэтага выкананьня.

24 АТЭ разам з НаркамАховы Здароўя і Галоўсацстрахам распрацаваць меры па арганізацыі мэдабслугоўваньня рабочых па месцу працы, шляхам рэгулярных доктарскіх выездаў у саўгасы з райбольніц, а таксама па выплаце на месцы ў саўгасах страховае дапамогі.

25. Праверыць на працягу кастрычніка, як каапэрацыя забясьпечвае рабочых саўгасаў прадуктамі харчаваньня і наогул дэфіцытнымі таварамі. Рашуча паставіць пытаньне аб крэдытаваньні рабочых. АТЭ і Сельтрэсту безадкладна ўрэгуляваць пытаньне з расцэнкамі на прадукты, якія адпушчаюцца рабочым з саўгасаў.

26. Выдзеліць пяць саўгасаў па БССР для арганізацыі там грамадзкага харчаваньня.

27. Праверыць наколькі рацыянальна выкарыстоўваюцца сродкі, асыгнуемыя на жылбудаўніцтва ў саўгасах, а таксама вывучыць якасьць гэтага будаўніцтва. Сельтрэсту па прыкладу Лясное Групы НКЗ распрацаваць тыпы жылых памяшканьняў у саўгасах, скласьці тэхнічныя каштарысы гэтага будаўніцтва з тым, каб з новага будаўнічага сэзону будаўніцтва ў саўгасах праводзіць па гэтых тыповых плянах. Сродкі ФУБР, якія ідуць на жылбудаўніцтва, у далейшым выкарыстоўваць выключна на пабудову новых кватэр і клюбаў.

28. Замацаваць маючуюся сетку летніх ясьляў у саўгасах (35), перавесьці іх на бесперапынную работу на працягу ўсяго году, прыцягнуўшы для гэтае мэты сродкі Ахматмладу і ФУБРА.

## Аб удзеле саюзу ў рабоце каапэрацыйных арганізацый і КСУ.

Адзначыць, што ўдзел прафарганізацый саюзу СГЛР, пачынаючы ад ЦП саюзу і канчаючы нізавымі ячэйкамі (рабачкомы, с-рабачкомы) у працы каапэрацыйных органаў і КСУ, недапушчальна недастатковы.

У далейшым працу н/саюзу па ўдзелу ў гэтай рабоце неабходна карэнным чынам, перабудаваць, для чаго Прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе:

1) Даручыць Аргаддзелу ў 3-х тыднёвы тэрмін падрыхтаваць пастаноўку

дакладаў на Прэзыдыуме ЦП, Белкаапсаюзу, сыстэмы с-г каапэрацыі, калгасцэнтру, Белсельбанку і КСУ, на якія выклікаць ня менш 3-х членаў н/саюзу, абраных у мясцовыя органы, пералічаных арганізацый.

2) Акраддзяленьням саюзу таксама ў плянавым парадку падрыхтаваць такіяж даклады Райсаюзаў і Акрсельгассаюзаў прыцягнуўшы на гэтыя даклады каапэрацыйны актыў з членаў н/саюзу, для ўдзелу ў вырашэньні гэтага пытаньня.

Распрацаваць і дэць усім нізовым праформанам указаньне аб правядзеньні справаздач членаў н/саюзу абраных у каапэрацыйныя воргвны. Гэта дасьць магчымасьць выявіць усе недахопы па каапэрыраваньню сельгаслесрабочых, асабліва батрацтва і палепшыць гэту работу.

3) Маючы на увазе, што саюзам не вядзецца вучоту каапэрацыйнага актыву сельгаслесрабочых і батракоў,—прапанаваць Акраддзяленьням выявіць колькасьць сельгаслесрабочых (членаў і ня членаў саюзу), абраных у органы каапэрацыі (старшынямі т ваў, членамі і г. д.).

4) Акраддзяленьням саюзу падагуліць працу па правядзеньні міжнароднага дню каапэрацыі, пад пунктам погляду: што маецца ў выніку каапэраваньня сельгаслесрабочых і батракоў, адначасова намеціўшы мерапрыемствы па далейшым каапэраваньню.

5) Акраддзеленьням праверыць выкананьне пастановы ЦП саюзу па дакладу БКС аб культмасавай працы (пастанова зьмешчана ў Бюлетэні № 9 ад 25/7 г.г

6) Даць паказаньне ўсім рабачкомам і с-рабачкомам аб практычным удзеле чл. н/саюзу ў арганізацыі каляктыўнай здачы хлеба. У час ходу гэтай працы павінна быць зьвернута максімум увагі праверцы і далейшаму замацаваньню калектывізацыі вескі.

*Усім рабачкомам, сельрабачкомам, мясцкомам і акраддзяленьням саюзу сельгаслесрабочых*

## Аб удзеле саюзу ў справе калектывізацыі сельскай гасп дарки.

Зьмяшчаючы ніжэй пастанову Усе ЦСПС аб удзеле прафсаюзаў у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі, ЦП саюзу прапануе Вам уважліва азнаёміцца з гэтай пастановай і паставіць яе на абгаварэньне агульных сходах рабочых і служачых.

Аб усіх высунутых заўвагах, выходзячы з мясцовага вопыту працы н/саюзу ў галіне калектывізацыі—паведаміце ЦП не пазьней 25-га лістапада 1929 г.

Заг. Арг. Аддзелу ЦПС—**Аскерка.**

Кіраўнік Спраў ЦП—**Юшкевіч**

*Пастанова Усе ЦСПС*

## Аб ўдзеле прафсаюзаў ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі

*(Газэта „Труд“ ад 13-X 29 г. № 236)*

Шырокае разгортваньне калгаснага руху, масавы ахоп ім бедняцка-серадняцкіх мас у вёсцы, пераход калгаснага руху ў стадыю будаўніцтва буйных калгасаў і суцэльнай калектывізацыі цэлых раёнаў суправаджаецца рэзкім абвострэньнем клясавай барацьбы на вёсцы і ўзмацняючымся супраціўленьнем кулацтва мерапрыемствам камуністычнай партыі і савецкай улады па сацыялістычным перебудаваньні сялянскай гаспадаркі.

Перад рабочай клясай стаіць задача: забясьпечыць за сабой сапраўднае кіраўніцтва ў гэтым працэсе калектывізацыі, даць чоткі рэвалюцыйна-клясавы напрамак руху, ў многа і многа раз узмацніць яго арганізаванасьць і тэмп яго разгортваньня.

Прэзыдыум УсеЦСПС канстатуе вялізарны інтарэс і ініцыятыву, выяўленыя рабочымі масамі да працэсу калектывізацыі вёскі і многалікавыя прыклады рабочай актыўнасьці і самадзейнасьці ў справе дапамогі бедняцка-серадняцкаму сялянству ў яго барацьбе за сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі.

Гэты парыў рабочых мас, аднак, у відавочна недастатковай меры вазглаўляецца прафсаюзамі, і кіраўніцтва апошніх на гэтым важнэйшым фронце сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца вельмі недастатковым.

Прэзыдыум УсеЦСПС, лічучы гэту працу аднэй з важнейшых непасрэдных задач прафсаюзаў, прапануе ўсім прафарганізацыям зрабіць рашучы паварот ва ўсей рабоце ў бок актыўнага ўзьдзейнічаньня на сацыялістычную перабудову вёскі, максімальнага ўзмацненьня і разгортваньня працэсаў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і выкарчоўваньня карэньняў капіталу на вёсцы.

Цэнтр цяжкасьці работы прафсаюзаў у гэтай галіне павінен быць перанесены на тыя формы сувязі рабочае клясы з бедняцка-серадняцкімі масамі вёскі, якія дапамагаюць найбольш поўнаму вырашэньню пастаўленай Леніным у 1923 годзе задачы сувязі паміж рабочымі і сялянамі, устанаўленьню паміж іх самых рознастайных форм таварыства. Пры гэтым у сучасны момант неабходна шырока выкарыстаць простую вытворчую зацікаўленасьць рабочых мас у справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

У ажыцьцяўленьне пастаўленых задач УсеЦСПС прапануе прафарганізацыям:

1. разгарнуць шырокую работу ў масах праз заводзкія канфэрэнцыі, сходы, клюбы, чырвоныя куткі і праз саюзны друк па азнаямленьню іх з пытаньнем аб сучасным становішчы калгаснага руху, аб шляхох і пэрспэктывах яго разьвіцьця, заўседы тлумачычы, што арганізаваная дапамога пралетарыяту вёсцы ў справе яе сацыялістычнай перабудовы на калектыўных пачатках зьяўляецца яе важнейшым і прамым абавязкам.

2. Устанавіць непасрэдную сувязь рабочых тых галін прамысловасьці якія работаюць на сельска—гаспадарчым сырцу (тэкстыльнай, маслабойнай, скуранай і г. д.), з сялянскімі раёнамі, якія зьяўляюцца сырцовымі базамі прамысловасьці, ў мэтах усямернай дапамогі пад'ёму і калектывізацыі вытворчасьці сельскагаспадарчага сырцу шляхам: а) ўцягненьня рабочых у справу арганізацыі контрактацыі гэтых відаў сырцу; б) заключэньня гаспадарча-палітычных даговораў паміж прадпрыемствамі і асобнымі калгасамі і раёнамі сырцу, пасылкі рабочых брыгад у сырцовыя раёны; в) арганізацыі шэфства над гэтымі раёнамі; г) абгаварэньня на сумесных з сялянамі канфэрэнцыях пытаньняў калектывізацыі сельскай гаспадаркі і аб шляхох далейшага разгортваньня раёнаў; д) ўстанаўленьня сыстэматычнай сувязі і дапамогі бедняцка-серадняцкім масам данага раёну ў справе пераходу да калектыўных форм вытворчасьці.

3. Арганізаваць непасрэдную сувязь рабочых прадпрыемств, выпрацоўваючых трактары, сельскагаспадарчыя машыны і інш. арудзьдзі і сродкі сельскагаспадарчай вытворчасьці, з бедняцка-серадняцкімі масамі асноўных раёнаў, спажываючых гэтыя машыны.

Рабочыя павінны паставіць сваёй задачай у гэтай галіне максімальную ўвязку машыназабесьпячэньня з задачай калектывізацыі сялянскай вытворчасьці, забесьпячэньне найбольш правільнага выкарыстаньня машын у каляктыўных гаспадарках і арганізацыю іх рамонту. Сувязь рабочых з тымі калектыўнымі аб'яднаньнямі, якія забясьпечваюцца машынамі іх вытворчасьці, павінна забясьпечыць ўзмацненьне зацікаўленнасьці рабочых да падвышэньня якасьці сваёй прадукцыі і разгортваньню тых галін машынабудаўніцтва, вытворчасьці хэмічных угнаеньняў і г. д., якія найбольш стымулююць працэс калектывізацыі вёскі

Узяць на сябе ініцыятыву прыцягненьня рабочых мас праз рабочую ка-

апэрацыю да справы дапамогі разьвіцьцю і калектывізацыі культур харчаваньня на аснове кантрактацыі, ўстанаўліваючы непасрэдную сувязь органаў рабочай каапэрацыі з бліжэйшымі калгасамі, дапамагаючы іх узмацненьню і арганізацыі новых калгасаў.

5. У мэтах мабілізацыі і арганізацыі рабочай грамадзкасьці навакол пытаньняў каляктыўнай арганізацыі сельскай гаспадаркі лічыць сваечасовай і неабходнай арганізацыю на мясцох добраахвотных рабочых грамад дапамогі калектывізацыі вёскі (ў сыстэме шэфвобчаств).

Пытаньне аб формах арганізацыі добраахвотных вобчаств дапамогі калектывізацыі даручыць вясковай камісіі УсеЦСПС прапрацаваць сумесна з цэнтральнай шэфскай камісіяй.

6. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на работу сярод рабочых, зьвязаных з сялянствам. У прамысловых прадпрыемствах, дзе маюцца кадры рабочых, зьвязаных з сваёй с. г., выдзеліць спэцыяльную работу па разгортваньню выхаваўчай работы сярод іх. Асноўны ўпор у гэтай рабоце скандэнтраваць на выхаваньні з гэтых кадраў ініцыятараў сацыялістычнай перабудовы вёскі, ў першую чаргу праз абагульваньне іх гаспадарак у каляктывы.

На прадпрыемствах навакол гэтага пытаньня разгарнуць шырокую растлумачальную работу, праз землячтва зьвязацца з раёнамі с. г., з якімі зьвязаны групы рабочых данага прадпрыемства, і арганізаваць канфэрэнцыі, сходы з бедняцка-серадняцкімі масамі з абгаварэньнем пытаньня аб значэньні, шляхох і мэтадах калектывізацыі с. г у даным раёне; разгарнуць сетку гурткоў і кароткатэрміновых курсаў для рабочых па пытаньню аб канкрэтных мерапрыемствах па арганізацыі калгасаў. Арганізаваць спаборніцтва паміж асобнымі землячтвамі, групамі рабочых і паміж асобнымі прадпрыемствамі за лепшыя посьпехі ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

7. Дабіцца рашучага пералому ў справе ўдзелу прафсаюзаў і шырокіх мас у рабоце шэфвобчаств, як арганізацыйных цэнтраў работы гарадзкога пралетарыяту ў вёсцы, ўстанавіўшы з імі шчыльнейшы кантакт. Накіраваць работу шэфвобчаств на аказаньне канкрэтнай вытворчай дапамогі вёсцы і дапамогі справе калектывізацыі. Паставіць практычнай задачай саюзных і шэфскіх арганізацый на прадпрыемствах арганізацыю калгасаў у падшэфных раёнах.

8. Прадпрыемствы, знаходзячыяся ў сельскіх мясцовасьцях, павінны адыграць рашаючую ролю ў справе калектывізацыі с. г. акаляючага раёну. Прафорганы павінны, рашуча перебудоўваючы работу па абслугоўваньню рабочых па месцу жыхарства, згрунтаваць ўвагу рабочых на ўдзеле ў калектывізацыі с. г., як канкрэтным прыкладзе клясавага выхаваньня рабочых, зьвязаных з вёскай. Шырэй разгарнуць масавую работу сярод сялянства, ставячы начале вугла прапаганду пераваг буйнага машыназаваньня с. г. вытворчасьці і неабходнасьць абагульваньня, як адзінага шляху к радыкальнай перебудове і падняцьцю сельскай гаспадаркі.

9. Саюзы, аб'ядноючыя рабочых у вёсцы, павінны забясьпечыць актыўны ўдзел членаў прафсаюзу ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Неабходна паставіць справу забесьпячэньня іх спэцыяльнай літэратурай па калектывізацыі сельскай гаспадаркі, пэрыядычна склікаць сумесна з савецкімі каапэрацыйнымі арганізацыямі нарады па пытаньню ўдзелу калектывізацыі; арганізаваць спаборніцтва паміж асобнымі раёнамі на лепшыя вынікі ў справе ўдзелу ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Унутрысаюзная масавая работа павінна быць у значнай меры накіравана на падрыхтоўку членаў саюзу да ролі арганізатараў калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Прэзыдыум асобна адзначае неабходнасьць прыцягненьня сельскай інтэлігэнцыі да актыўнай работы па калгаснаму будаўніцтву.

10. Паставіць работу калгас аб'ядноньняў і органаў, якія ведаюць сацыялістычным перабудаваньнем вёскі, ў цэнтр увагі кіруючых рэспубліканскіх, вобласных, акруговых саюзных органаў, заслухоўваючы іх даклады на сваіх пасяджэньнях, разглядваючы іх вытворчыя пляны і праграмы. Усю работу гэтых

органаў выносіць на абгаварэньне рабочых мас, прыцягваючы іх да кантролю і дапамогі ў рабоце гэтых арганізацый. Задачы калектывізацыі вёскі павінны зьявіцца складанай часткай эканомработы саюзу.

11. Прапанаваць усім прафарганізацыям шырэй унесьці ў практыку пасылку рабочых брыгад, лічучы гэту форму работы адным з асноўных і найбольш пасьпяховых мэтадаў уцягненьня шырокіх рабочых мас у справу сацыялістычнай перабудовы вёскі, а таксама практыкаваць масавыя экскурсіі рабочых у буйныя калгасы і раёны суцэльнай калектывізацыі, ўдзел рабочых у вытворчых нарадах калгасаў, прыцягненьне работнікаў калгаснага руху да ўдзелу ў вытворчых нарадах прадпрыемства і г.д.

12. Прызнаючы аднэй з важнейшых задач прафсаюзу ўзмацненьне калгаснага руху кадрамі рабочых арганізатараў якія могуць забясьпечыць правільную клясавую лінію руху, прэзыдыум Усе ЦСПС прапануе саюзным арганізацыям пры правядзеньні масавага вылучэньня рабочых і работнікаў прафарганізацый на савецкую, каапэрацыйную і гаспадарчую работу прадуглядзець вылучэньне падрыхтоўчых рабочых кадраў на ўзмацненьне аб'яднаньняў калгасаў і буйных калгасаў.

13. Даручыць культаддзелу Усе ЦСПС тэрмінова прапрацаваць пытаньне аб адбіцьці ва ўсіх відах і формах саюзнай культработы задач калектывізацыі вёскі.

Прэзыдыум даручае ЦКсаюзаў распрацаваць плян мерапрыемстваў па ўзмацненьню ўдзелу кожнага прафсаюзу у справе калектывізацыі, выходзячы з умоў вытворчасьці, складу рабочых і інш. асаблівасьцяў кожнага саюзу.

*Усім АВК, Акрана, АК ЛКСМБ і Акругкомам саюзу СГЛР.*

## Аб зьнішчэньні няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых.

У мэтах узмацненьня пралетарскага ўплыву і арганізуючай ролі сельгаслесрабочых у сацыялістычным будаўніцтве на вёсцы, у мэтах забесьпячэньня яшчэ большага прытоку сельгаслесрабочых у шэрагі кампартыі, камсамолу і прафсаюзу, нам неабходна наладзіць справу клясавага выхаваньня шырокіх мас батрацтва. Самаю асноўнаю перашкодаю ў гэтай справе зьяўляецца няпісьменнасьць і малапісьменнасьць вясковых пралетарыяў. Пагэтаму асноўнаю задачаю ў справе ўцягненьня сельгаслесрабочых у актыўнае гаспадарчае і культурнае будаўніцтва на вёсцы зьяўляецца зьнішчэньне няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод шырокіх мас батрацтва і ўвязка гэтае работы з справаю клясавага выхаваньня сельгаслесрабочых. На 29/30 навучальны год намечана ліквідаваць няпісьменнасьць і малапісьменнасьць сярод 50.000 сельгаслесрабочых

Для выкананьня гэтае задачы паміж саюзам Сельгаслесрабочых і НК Асьветы заключана ўмова, згодна якое НКАсьветы, пры матар'яльнай дапамозе саюзу абавязуецца на працягу навучальнага году абучыць 50,000 няпісьменных і 4,300 малапісьменных. Для чаго патрэбна арганізаваць каля 3,000 спэцыяльных батрацкіх лікпунтаў і каля 1.000 груп малапісьменных.

Гэта задача можа быць з посьпехам выканана толькі тады, калі будзе праведзена належная арганізацыйная падрыхтоўка, калі ўсе савецкія і камсамольскія арганізацыі будуць актыўна дапамагаць саюзу і Наркамасьветы ў гэтай рабоце.

У сувязі з гэтым Арг. Аддзел прэзыдыуму ЦВК, Наркамасьветы, ЦК ЛКСМБ і ЦП Сельгаслесрабочых прапануюць:

1) Для арганізацыі работы па зьнішчэньню няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых і садзейнічаньня ў гэтай рабоце пры с/саветах арганізаваць камісіі з прадстаўнікоў с/савету, с/рабачкомаў, яч. ЛКСМ і настаўніка. Старшынёю камісіі зьяўляецца старшыня, або сэкратар с/савету.

2) На камісіі ўскладаецца работа па правядзеньню вучоту няпісьменных і малапісьменных батракоў, батрачак і сельгаслесрабочых, арганізацыя лікпунктаў і груп, разьмяркаваньне няпісьменных і малапісьменных па лікпунктах, арганізацыя індывідуальнага навучаньня батракоў, нагляд за работаю лікпунктаў,

арганізацыя выпуску з лікпунктаў і падвядзеньне вынікаў гэтае работы.

3) Вучот няпісьменных і малапісменных утвараецца па спэцыяльна распрацаванай вучотнай картцы. Запоўненыя вучотныя карткі няпісьменных і малапісьменных батракоў і с/гаслесрабочых перадаюцца настаўніку таго лікпункта, або групы, да якое прымацаваны няпісьменны, або малапісьменны. Калі няпісьменны або малапісьменны батрак пасьля разрахунку з наймальнікам пераходзіць у другі раён, або с/савет, то вучотная картка перасылаецца ў адпаведны с/савет. На падставе вучотных картак складаюцца па с/саветах сьпісы няпісьменных і малапісьменных у 2-х паасобніках, прычым адзін сьпіс застаецца ў камісіі, а другі накіроўваецца с/рабачкомам у акруговае аддзяленьне саюзу СГЛР.

4) Усю тэхнічную работу па вучоту няпісьменных і малапісьменных сельгаслесрабочых і па складаньню сьпісаў праводзяць ячэйкі камсамолу ў парадку дапамогі прафсаюзу СГЛР.

5) Настаўнік лікпункту атрымаўшы карткі няпісьменных і малапісьменных, прымацаваных да яго лікпунктаў, разам з с/рабачкомам арганізоўвае работу лікпункту і на картках адзначае наведваньне лікпункту і пасьпяховасьць навучаемага.

6) Камісія па зьнішчэньню няпісьменнасьці сярод батрацтва, працуе на працягу ўсяго навучальнага году, праверае работу лікпунктаў, вывучае прычыны не наведваньня лікпункту, непасьпяховасьць навучаемых і прымае меры да ўхіленьня гэтых прычын. У выпадках, калі наймальнікі ня будуць пушчаць батракоў на лікпункты, камісія пры с/савеце прымае належныя меры ўзьдзейнічаньня на наймальнікаў.

7) У канцы навучальнага году камісія арганізоўвае выпуск няпісьменных і малапісьменных з лікпунктаў і падводзіць вынікі ўсяе работы. Сельгаслесрабочым, скончыўшым лікпункты выдаецца адпаведнае пасьведчаньне.

8) Лікпункты і групы праводзяць работу на белмове, а там, дзе ёсьць сельгаслесрабочыя другіх нацыянальнасьцяў (яўрэйскай, польскай і інш.) лікпункты працуюць на іх ро най мове.

9) АКРАНА, АК ЛКСМБ і Акраддзяленьні саюзу абавязаны сыстэматычна праверацъ выкананьне гэтых дырэктыў і наогул пастаноўку работы па зьнішчэньню няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых, шляхам абсьледваньняў і заслухоўваньня дакладаў аб рабоце сваіх нізовых арганізацый.

ЦВК, НК Асьветы, ЦК ЛКСМБ і ЦП СГЛР упэўнены, што важнейшая задача зьнішчэньня няпісьменнасьці сярод вясковага пралетарыяту будзе выканана.

Заг. Арг. Аддзелу ЦВК БССР—**Лукашэвіч**

Нарком Асьветы БССР—**Платун**

Старшыня ЦП СГЛР—**Вайтэнкаў**

Сэкратар ЦК ЛКСМБ—**Галавач**

*Ус м рабачкомам і сельрабачкомам саюзу Сельгаслесрабочых.*

## Аб распаўсюджваньні газэты „Труд“.

У справе непасрэднага ўдзелу ў газэце „Труд“ і асабліва ў распаўсюджваньні яе наш саюз займае нязначнае месца.

Напамінаючы дырэктывы ЦП па гэтым пытаньні, а таксама ў сувязі з адозвай УсеЦСПС ад 30/VIII—29г. ,Цэнтральнае Праўленьне саюзу Сельгаслесрабочых БССР прапануе правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Усім прафарганізацыям і прафактывістым узмацніць агітацыю за распаўсюджваньне газэты „Труд“ шляхам індывідуальнай і групавой подпіскі.

2) Даручыць вылучаным на прадпрыемствах і ў установах упаўнаважаным па распаўсюджваньню друку мець сувязь з рэдакцыяй газэты „Труд“ і дапамогу яе распаўсюджваньню.

3) Сачыць і праверацъ работу ўпаўнаважаных і аказваць ім у гэтай справе належную патрымку.

4) Усім прафарганізацыям (да рабачкомаў і сельрабачкомаў уключна) і ўсім культустановам нашага саюзу (клюбы, бібліятэкі, чырвоныя куткі, дамы і куткі батракоў) неабходна мець газэту „Труд“, прадуглядзеўшы для гэтай мэты

расходы ў каштарысах саюзных арганізацый.

5) Паведаміць ЦП якая колькасьць газэты „Труд“ выпісваецца ў сучасны момант арганізацыяй (па акраддзяленьнях і рабачкомах) і якімі мерапрыемствамі забясьпечваецца павялічэньне тыражу.

Тэрмін прысылкі зьвестак 10 лістапада 1929 года.

За Заг. Культаддзелам ЦП **Аскерка**
Кіраўнік спраў **Юшкевіч**

*Усім арганізацыям саюзу сельгаслесрабочых*

## Аб рэалізацыі білетаў азэт-лётарэі.

Нацыянальная палітыка партыі і савецкай улады цалкам забясьпечвае магчымасьць актыўнага ўдзелу ў гаспадарчым, дзяржаўным і культурным будаўніцтве працоўных усіх нацыянальнасьцяў, асабліва тых нацыянальнасьцяў, якія былі вельмі прыгнечаны царскім рэжымам. Нацпалітыка партыі і саўулады накіравана да палепшаньня эканамічнага становішча працоўных усіх нацыянальнасьцяў і да разьвіцьця пралетарскае па зьместу нацыянальнае культуры.

У прыватнасьці, саўулада праводзіць шэраг мерапрыемств па ўцягненьню працоўных яўрэйскае нацыянальнасьці ў с. гаспадарчую вытворчасьць, шляхам арганізацыі яўрэйскіх нац, калгасаў і надзяленьня працоўных яўрэяў зямлёю, чаго не маглі дабіцца працоўныя яўрэйскай нацыянальнасьці пры царскім рэжыме Для дапамогі саўуладзе ў правядзеньні гэтых мерапрыемств „ОЗЕТ“ (общество содействия землеустройству трудящихся евреев) арганізоўвае Ўсесаюзную ОЗЕТ лётарэю, якая павінна прыцягнуць увагу ўсіх працоўных да справы ўцягненьня працоўнага яўрэйскага насельніцтва ў с/г. вытворч. Пагэтаму ЦП саюзу СГЛР прапануе.

1) Усім саюзным арганізацыям прыняць самы актыўны ўдзел у распаўсюджваньні білетаў „ОЗЕТ“ лётарэі. Кожны рабачком павінен рэалізаваць сярод чл. саюзу і вакольнага сялянства ня менш, як 20 білетаў „ОЗЕТ“ лётарэі.

2) Устанавіць сувязь з мясцовымі ячэйкамі „ОЗЕТ“ у—і заслухаць на сходах членаў саюзу даклады аб задачах „ОЗЕТ‘у“ і аб рабоце мясцовых ячэекі „ОЗЕТ‘у“. Растлумачыць на сходах значэньне „ОЗЕТ“ лётарэі.

3) Разгарнуць работу па ўцягненьню чл. саюзу ў члены „ОЗЕТ“.

4) У мэтах хутчэйшай рэалізацыі білетаў „ОЗЕТ“ лётарэі, ЦП лічыць магчымым дазволіць рабачкомам Менакругі пры наяўнасьці ў рабачкомах свабодных сродкаў, адпускаць пад атрыманыя білеты авансы з тым, каб пасьля рэалізацыі білетаў ад пушчаная сума з сродкаў рабачкому была пакрыта.

5) Па правядзеньні гэтае работы рабачкомы аб выніках паведамляюць. Акраддзяленьні саюзу, а па Менакрузе —ЦП саюзу.

Старшыня ЦП Саюзу **(Вайтэнкаў)**

Заг. Арг. Аддзелу **Аскерка**

*Усім Прафарганізацыям Саюзу Сельгаслесрабочых*

## Аб культабсьледваньні за пэрыяд з 1/IV—1/X 29 г.

У 1-ай палове кастрычніка м-цу па рабачкомах, с-рабачкомах і іншых органах саюзу разасланы блянкавы матар‘ял па вучоту масавай культпрацы рабачкомаў (мясцкомаў) і сельрабачкомаў за пэрыяд з 1-IV—1-X—г. г.

**Парадак запаўненьня блянкаў наступны:**

1) Рабачкомы і мясцкомы, на падставе маючыхся ў іх запісаў па дзеньніках культпрацы,—запаўняюць блянк справаздачы (статформа № 23), а таксама і дадатковую картку справаздачы (форма ЦСПСБ).

2) Сельрабачкомы такім жа чынам запаўняюць справаздачу (статформа № 16) разам з дадатковай карткай да справаздачы (форма ЦСПСБ).

3) Апрача гэтага для вучоту працы клюбаў, бібліатэк, вайсковых гурткоў і гурткоў фізкультуры—таксама разасланы блянкі, пры чым:

а) карткі клюбаў—запаўняюцца толькі на тыя клюбы, у якіх праведзена клюбнае членства і маецца абранае праўленьне;

б) карткі бібліятэк—запаўняюцца толькі на тыя бібліятэкі, якія налічваюць 300 і больш кніг;

в) карткі вайсковых гурткоў і гурткоў фізкультуры—запаўняюцца на тыя гурткі, дзе маюцца старасты гурткоў.

Усім рабачкомам (мясцкомам) і сельрабачкомам па атрыманьні блянкавага матар'ялу, прапануецца зараз жа прыступіць да запаўненьня справаздач (картак) адпаведнымі зьвесткамі і ўвесь запоўнены матар'ял накіраваць у Акраддзяленьні саюзу, не пазьней 1-га лістапада г. г.

Райінструктарам саюзу, ЦП саюзу катэгарычна прапануе пры выездах па рабачкомах—праверыць, як выканана імі работа па прадстаўленьні вышэйпамянёнага матар'ялу па культабсьледваньню, і калі той ці іншы рабачком гэтай работы ня выканаў, то дапамагчы яму ў складаньні справаздач і картак і зараз жа накіраваць іх у Акраддзяленьне.

Акраддзяленьням прапануецца прасачыць за своечасовым і правідловым запаўненьнем рабачкомамі справаздач і картак.

Згрупаваны і правераны матар'ял па ўсіх рабачкомах акругі павінен быць прысланы Акраддзяленьнем у ЦП саюзу к 5 му лістапада г. г.

За Заг. Культаддз. ЦП
Саюзу *Аскерка.*

Кірсправў *Юшкевіч*

*Усім рабачкомам, (мясцкомам), райінструктарам і Акраддзяленьням Саюзу.*

## Аб наладжваньні статсправаздачнасьці.

Шмат гаварыць аб значэньні вучоту ня трэба, так як усім добра вядома, што ня маючы зьвестак аб тым, што ўжо зроблена і што маецца (канкрэтныя лічбы),—вельмі цяжка, а часам і не магчыма характэрызаваць работу той ці іншай арганізацыі, а таксама і будаваць пляны па далейшай рабоце на падставе вынікаў праробленай работы.

Вядома, што для гэтых момантаў, а таксама і для выяўленьня становішча работы па асобных галінах (як та: праца сярод батрацтва, ахоп іх працдагаворамі, зарплата, уцягненьне ў саюз і г. д.) неабходна мець сталыя зьвесткі у лічбах аб тым, што фактычна маецца.

З гэтай мэтай ЦП саюзу выпрацаваны формы блянак па вучоту працы саюзу, якія рассылаюцца на месцы для запаўненьня іх адпаведнымі зьвесткамі, згодна формы саміх блянак.

Як-жа нашы рабачкомы (мясцкомы) і сельрабачкомы запаўняюць гэтыя блянкі? Трэба сказаць, што з рук вон дрэнна. Апрача таго ўсе гэтыя карткі і справаздачы прысылаюцца ў ЦП саюзу з вельмі вялікім спазьненьнем—на 2—3, а то і больш месяцаў. Пры такой пастаноўцы работы ніяк не магчыма ў тэрмін сказаць,—што ў нас маецца. Само-ж жыцьцё патрабуе ад нас, каб мы ведалі сёньня не аб тым, што было ўчора, а аб тым, што маем сёньня-ж. Выходзячы з гэтага апошняга перад намі стаіць задача ня толькі правідлова складаць зьвесткі па тым ці іншым матар'ялу, але і бязумоўнага і своечасовага прадстаўленьня іх у вышэйшыя органы.

### Якія зьвесткі і на які тэрмін складаюць рабачкомы (мясцкомы) і сельрабачкомы.

Рабачкомы і сельрабачкомы па сталым статыстычным вучоту складаюць наступныя зьвесткі:

| | Тэрмін. |
|---|---|
| 1) Карткі хуткага вучоту аб колькасьці членаў саюзу—2 разы ў год . . . . . . . | Не 1-га студзеня і 1-га жніўня. |
| 2) Картку аб складзе рабачкому . . . . | Пасьля перавыбараў. |
| 3) Справаздачу аб масавай культпрацы—2 разы ў год . . . . . | На 1-га кастрычніка і 1-га сакавіка. |

А калі маецца клюб з уведзеным клюбным членствам і выбарным праўленьнем, бібліятэка, налічваючая 300 і больш кніг, а таксама, вайсковы гурток і гурток фізкультуры, то на ўсе гэтыя ўстановы разам з культабсьледваньнем таксама прысылаюцца справаздачы

| | |
|---|---|
| 4) Зьвесткі аб колькасьці заключаных працдагавораў на батрацтва—2 разы ў год . | 1-га жніўня і 1-га кастрычніка. |
| 5) Сьпісак калдагавораў і тарыфных згод, заключаных рабачкомам—1 раз у год . | 1-га сакавіка |
| 6) Грашовыя справаздачы . . . . . . . | |
| 7) Справаздачы па касах ўзаемадапамогі . . | |

У вышэйпамянёны пералік не уваходзяць зьвесткі аб лічбах па правядзеньню розных кампаній, як та: аб колькасьці абраных членаў саюзу ў сельсаветы, органы каапэрацыі, ЦКСУ, аб ліку каапэраваных членаў саюзу, уцягнутых у партыю, камсамол, падпісаўшыхся на пазыкі. і г. д.

Такія зьвесткі прадстаўляюцца па асобных заданьнях і дырэктывах ЦП саюзу, разам з характарыстыкай аб самой рабоце па кампаніі.

Для прадстаўленьня сталых матар'ялаў па статыстычным вучоту ня так ужо многа трэба затрачваць часу, складаньне кожнай карткі займае ня больш 2—3 х гадзін і калі рабачкомы будуць уважліва адносіцца да гэтай справы, дык ўсе зьвесткі можна без ніякіх перабояў атрымліваць, бязумоўна, своечасова і ня трэба будзе траціць часу і сродкаў на пасылку напамінкаў аб прадстаўленьні матар'ялаў.

У сувязі з гэтым ЦП саюзу прапануе Вам наладзіць працу у далейшым па складаньні і своячасовым прэдстаўленьні ўсіх статзьвестак, а зараз праверыць якіх Вы зьвестак яшчэ не далі па чарговаму статвучоту, канкрэтна ці адаслана Вамі: (гл. бюл. ЦП №№ 9 і 10).

1) Картка хуткага вучоту членаў саюзу на 1-VII.

2) Картка складу рабачкому № . . . на 1-VII.

3) Зьвесткі аб колькасьці заключаных працдагавораў на 1-VIII.

4) Зьвесткі аб зарплаце батракоў на 1-IX.

5) Картка нацыянальнага складу членаў саюзу на 1-VIII.

Калі якія-небудзь з пералічаных зьвестак Вамі яшчэ не адасланы, то зараз жа запоўніце іх і адашліце ў Акраддзяленьне саюзу. У выпадку. калі няма блянак патрабуйце іх ад Акраддзяленьняў ці ЦП саюзу.

Райінструктарам саюзу прапануецца больш дэталёва праверыць ці адасланы рабачкомамі зьвесткі і дапамагаць ім у гэтай працы.

Акраддзяленьням саюзу з свайго боку таксама трэба прыняць меры да наладжваньня працы па статыстычнай справаздачнасьці як у рабачкомах акругі, так і ў сябе ў Акраддзяленьні.

Зьвесткі па вучоту павінны быць складзены згодна запатрабаваньняў і прадстаўлены ў ЦП саюзу своечасова.

Адк. сэкратар ЦП *Шчамелёва.*
Кіраўнік спраў *Юшкевіч.*

*Усім Акраддзяленьням, Райінструктарам і Рабачкомам Саюзу Сельгаслесрабочых.*

## ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Надыходзячая калдагаворная кампанія будзе працякаць ва ўмовах далейшага росту сацыялістычнага спаборніцтва і шпаркага тэмпу індустрыялізацыі ўсей народнай гаспадаркі як у галіне прамысловасьці, так і сельскай і лясной гаспадаркі.

Інтарэсы сацыялістычнага будаўніцтва, абароны краіны і задавальненьне ўсіх узрастаючых запатрабаваньняў рабочае клясы—патрабуюць перавыкананьня пяцігодкі і яшчэ больш шпаркіх тэмпаў індустрыялізацыі і рэканструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах. У адпаведнасьці з гэтым на 1929-30 г. капітальныя затраты па сельскай і лясной гаспадарцы БССР намячаюцца ў разьмеры 62.197.000 рублёў.

### Асноўныя задачы калдагаворнае кампаніі.

Улічваючы недахопы калдагаворнай кампаніі мінулага году, якія выразіліся ў слабым завастрэньні ўвагі рабочых, служачых і спэцыялістых на агульна-дзяр-

жаўных гаспадарчых і палітычных задачах рабочае клясы, у сувязі з чым у большасьці выпадкаў кампанія прайшла, як вузка практычная задача і канцэнтравала ўвагу апошніх галоўным чынам навокал матар'яльна бытавых пытаньняў. У гэтым годзе калдагаворную кампанію трэба правесьці, як шырокую гаспадарча-палітычную кампанію. Шырока асьвятляючы перад рабочымі, служачымі і спэцыялістымі канкрэтныя гаспадарчыя заданьні, што выцякаюць з нашых кантрольных лічбаў, трэба сканцэнтраваць увагу рабочых, служачых і спэцыялістых навокал пытаньняў Падняцьця ўраджайнасьці, павышэньня тэмпу калектывізацыі і вытворчага каапэрыраваньня, перавыкананьня плянавых заданьняў па лесаўпарадкаваньню і лесакультурам, мэліарацыі і земляўпарадкаваньня на 1930 год, павышэньня прадукцыйнасьці працы, зьніжэньня сабекошту, паляпшэньня якасьці прадукцыі, зьніжэньня накладных выдаткаў, мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, узмацненьня працоўнай дысцыпліны і правядзеньня бесьперапыннага вытворчага тыдню, праз разгорнутае сацыялістычнае спаборніцтва паміж усімі зьвеньнямі гаспадаркі.

Побач з узмацненьнем работы прафсаюзаў па абароне матар'яльных, бытавых і культурных патрэб рабочых і служачых, злучаючы і зьвязваючы гэту работу з агульнымі інтарэсамі і задачамі рабочае клясы, патрэбна ўважліва аднесьціся да запатрабаваньняў рабочых. Саюзныя і гаспадарчыя органы павінны рашуча змагацца з адсталымі і рвацкімі настроямі асобных груп рабочых, служачых і спэцыялістых, даваць рашучы бальшавіцкі адпор вылазкам рэштцы трацкізму і права-апартуніcцкім настроям, апіраючыся ў гэтай барацьбе на перадавыя актыўныя пласты рабочае клясы і спэцыялістых.

Прафэсыянальныя і с.-гаспадарчыя органы павінны шырока растлумачваць рабочым масам, што калдагавор ня толькі зьяўляецца формай рэгуляваньня ўмоў працы рабочых, але ён таксама зьяўляецца важным падвіжнікам выкананьня гаспадарчага пляну і агульным абавязкам, што, побач з адказнасьцю гаспадарнікаў за дакладнае выкананьне калдагавору, рабочыя і прафсаюзы з свайго боку бяруць на сябе абавязак выканаць прынятыя заданьні па прамфінпляне ці пяцігодцы на 1930 год.

**Праверка выкананьня калдагавароў і абгаварэньне праэктаў новых калумоў.**

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум Беларускага Рэспубліканскага Камітэту саюзу прапануе:

1. Рабачкомам і мясцкомам.

а) Зараз-жа вылучыць брыгады для праверкі выкананьня заключаных калумоў і пасьля праверкі заслухаць на агульным сходзе даклад гаспадарніка аб выкананьні калумовы і садаклад брыгады па праверцы.

б) На падставе матар'ялаў выкананьня калумовы на паседжаньнях рабачкомаў, мясцкомаў прапрацаваць заўвагі к новым калумовам (узяць у аснову старыя дагаворы) і пасьля абгаварэньня на агульных сходах увесь матар'ял па гендагаворам прыслаць у Акраддзяленьне саюзу, а на Менакрузе—ў ЦП саюзу не пазьней 20-га лістападу.

2. Акраддзяленьням саюзу, пасьля атрыманьня матар'ялу з месц, падагуліць і прапрацаваць па кожнай галіне вытворчасьці (лясьніцтва, лесаўпарадкаваньне, земляўпарадкаваньне, мэліарацыя і г. д.) і прыслаць у ЦП саюзу не пазьней 1-га сьнежня г. г.

3. Па лініі спэцыялістых. Прапрацаваць заўвагі і праэкты новых калумоў на спэцыялістых праз шырокае абгаварэньне на паседжаньні сэкцый і агульных сходах спэцыялістых, прыцягваючы шырокія масы спэцыялістых к удзелу ў абгаварэньні гэтых праэктаў.

4. Райінструктарам ЦП і Акраддзяленьняў дапамагчы рабачкомам у правядзеньні калдагаворнай кампаніі, як інструктаваньнем, а таксама практычнай дапамогі пры заключэньні дагавораў на дробныя прадпрыемствы (млыны, смалакуркі і т. д.), для чаго правясьці нарады рабачкомаў і мясцкомаў, як у гарадох, так і ў раёнах па гэтаму пытаньню.

5. Маючы на ўвазе, што калдагаворная кампанія будзе ахватваць і прыватныя прадпрыемствы, ЦП лічыць неабходным у прыватных прадпрыемствах зарплату павысіць ня менш, як на 20

проц. ЦП лічыць ненармальным такое становішча, калі саюзныя органы круглы год заключаюць дагаворы на дробныя прадпрыемствы і прапануе ўсю калдагаворную кампанію на ўсе прадпрыемствы і ўстановы закончыць не пазьней 20-га сьнежня г. г. (за выключэньнем саўгасаў і сэзоньнікаў, на якіх будзе заключацца ў студзені—люты мес.).

6. Саюзным органам падагуліць вынікі правядзеньня калдагаворнай кампаніі і на пазьней 1-га лютага прыслаць у ЦП саюзу вынікі правядзеньня гэтай кампаніі.

У насьценных газэтах, а таксама на старонках „Бел. Батрака" шырока асьвятліць выкананьне старых дагавораў і заўвагі к новым калумовам.

Наддаючы кампаніі па перазаключэньню калдагавораў вялікае палітычнае і эканамічнае значэньне, прафсаюзы і гаспадарчыя органы павінны прылажыць максімум увагі, і энергіі і ініцыятывы да правільнага і сваечасовага правядзеньня гэтай работы.

Старшыня Бел. Рэсп.
Кам-ту Саюзу *Вайтэнкаў.*
Заг. АТЭ *Вяжэвіч.*

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2789. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менскпраўдома.